


# Рэгіянальная газета

15 сакавіка 2013 года
№ 11 (933)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".



Раман Вайніцкі: "Я магу ганарыцца Беларуссю"

2-я старонка



Уласніка-даўжніка змогуць выселіць за 1,5 года

4-я старонка



## навіны рэгіёна

### У Гервятах прайшоў турнір па міні-футболе

**АСТРАВЕЦ.** У нядзелю, 10 сакавіка, у вёсцы Гервяты Астравецкага раёна адбыўся міжраённы турнір па міні-футболе сярод ветэранаў (гэта гульцы, якім за 35 год). Змагаліся чатыры каманды: па адной з Астравецкага, Мядзельскага і дзве з Ашмянскага раёна. Першае месца заняла каманда Ашмяны-2, на другім месцы – Ашмяны-1. Прадстаўнікі Мядзельшчыны занялі трэцяе месца. Хаця, па меркаванні галоўнага суддзі спаборніцтваў **Вадзіма Лебядзевіча**, менавіта мядзяльчане паказалі найбольш відовішчную і цікавую гульню, але камандзе ў гэты дзень проста не шанцавала.

### Вілейка можа стаць сталіцай Дня беларускага пісьменства-2014

**ВІЛЕЙКА.** З прапановай адзначыць свята ў родным горадзе да міністра інфармацыі **Алега Праляскоўскага** звярнуўся дырэктар мясцовага гісторыка-краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**. Сустрэча міністра з віляйчанамі адбылася 22 лютага. У наступным годзе Дзень пісьменства павінны прайсці ў адным з гарадоў Мінскай вобласці, таму тое, што свята будзе мець вілейскую прапіску, – цалкам магчыма. Сяргей Ганчар патлумачыў, што месца, дзе пройдзе гэты дзень, вызначаць бліжэй да самой падзеі. Канчатковае рашэнне прыме старшыня Мінскага аблвыканкама **Барыс Батура**. Увогуле, выбіраюць паміж двума гарадамі: Заслаўем і Вілейкай.

Аддзел інфармацыі.



# У сакавіку жнуць на азёрах!




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Пагрузка трыснягу ў Мядзеле, працуюць Віталь Дралінскі, Іван Чухлей, Павел Захарэвіч і Андрэй Куцкевіч.

 



АСОБЫ

# Раман Вайніцкі: “Я магу ганарыцца Беларуссю”




Гэта люстэрка вісела ў адным з класаў. На перамене дзеці разбілі шкло, а каб гэтага не заўважылі, заляпілі яго размаляванымі далонькамі. Трэшчыну ўсё ж заўважалі, і Раман Вайніцкі забраў яго ў свой кабінет.

**ВАЛОЖЫН. ВІЛЬНЯ. У сераду, 6 сакавіка, у Вільні жорстка забілі прэзідэнта беларускіх суполак у Літве Рамана Вайніцкага. Ён нарадзіўся ў мястэчку Вішнева Валожынскага раёна.**

Сваё апошняе інтэрв'ю Раман Вайніцкі даў “Рэгіянальнай газеце” ў кастрычніку 2012 года. Мы падрыхтавалі неапублікаваныя вытрымкі з размовы.

Вайніцкі быў адным з ініцыятараў і арганізатараў стварэння ў Вільні беларускамоўнай навучальнай установы – гімназіі імя Францішка Скарыны. Працаваў у ёй намеснікам дырэктара. Прадстаўляў беларусаў, якія жывуць у Літве, у Сойме.

Яго забілі ў падвале ўласнага дома. Рукі былі звязаныя, а рот залеплены. Паводле папярэдніх дадзеных, на целе заўважылі сляды катаванняў. Цела знайшла жонка.

### Чаму знікае беларускае

– Бывае, глядзіш заяву на паступленне. У дакументах бацькоў нацыянальнасць – беларус і беларуска, а ў дзіцяці ўжо стаіць, што яго бацькі палякі. Пытаюся, чаму так? Адказвае, ну, разумееце, палякі нас фінансуюць, даюць грошы. Людзі прадаюцца.

### Чаму выступае супраць эканамічных санкцый

– На сустрэчы ў Вільні з камісарам арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе аб праблемах нацыянальных меншасцяў, што жывуць у Літве, я сказаў, што мы бачым крыўду ад Еўропы. “Зубры” беларускай апазіцыі прапаноўваюць жорсткія санкцыі супраць беларускіх мерапрыемстваў. На іх працуюць і літоўцы, і палякі, і іншыя. Калі вы створыце праблемы “Беларуськалію”, то горш зробіце найперш нам. Нельга, каб былі эканамічныя санкцыі да Беларусі. 80% клайпедскага порта працуе на перагрузку беларускай прамысловасці.

### Пра двудушную беларускасць

– Як можна ставіцца да людзей, якія выступаюць на трыбуне па-беларуску, а на перакуры між сабой гавораць па-руску?

### Пра размову з прэзідэнтам Літвы

– На сустрэчы з прэзідэнтам Літвы Даляй Грыбаўскайтэ ад імя беларускага народа я падзякаваў ёй за падтрымку: мы зразумелі, што беларусаў яна паважае. На што яна адказала: “Вы адзіны, хто аддзячыў за маю дзейнасць. Мая праца найперш накіраваная па падтрымку беларусаў, што жывуць у Літве”.

### Ці даўно быў у Вішневе

– Калі не стала маёй маці, то не стаў ездзіць. А раней ездзіў ледзь не кожныя выхадныя.

### Пра Беларусь

– Я магу ганарыцца Беларуссю. Мы ў гімназіі кажам: вось выйдзем на пенсію – і паедзем у Беларусь.

Мая радзіма Беларусь, а радзіма маіх дзяцей – Літва.

Жонка кажа: паехалі ў Беларусь. Але я вельмі не хачу, каб гэтая школа загінула. Не бывае людзей незамяняльных, але ад кожнага залежыць вельмі шмат.

### Пра мяжу

– Такой мяжы між Беларуссю і Літвой не павінна быць. Машыны стаяць шмат гадзін. Вялікія чэргі з-за кепскай працы беларускіх мытнікаў на мяжы.

### Чаго жадае дасягнуць у Літве

– Больш дасягнутага не бывае.

### Уражанні ад размовы з Раманам Вайніцкім

Падчас размовы спадар Раман Вайніцкі імкнуўся патлумачыць тое, што магло быць незразумелым. Пытаўся, ці ёсць дзе спыніцца, чым можа дапамагчы.

Артыкул быў пра школу, якая якраз атрымала статус гімназіі. Ён паказаў кожны кабінет. У кабінеце Вайніцкага стаялі каробкі з камянямі. Ён вазіў іх праз мяжу, сабраўшы каля памятных мясцін – царквы Еўфрасінні Полацкай, Сафійскага сабора.

У школе спадар Раман стварыў музей. Там размясціў беларускія кнігі і прадметы сялянскага побыту. Ручнікі, прасы, гаршкі прывёз пераважна з Вішнева.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка “РГ”. Раман Вайніцкі** – прэзідэнт згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве з 2009 года. Дарадчык прэм'ер-міністра Літвы па нацыянальных пытаннях. Нарадзіўся ў мястэчку Вішнева Валожынскага раёна 17 жніўня 1960 года. Загінуў 6 сакавіка 2013 года.

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# У сакавіку жнуць на азёрах!

*Пачатак на 1-й старонцы.*

**МЯДЗЕЛ. На прасторы Мядзельшчыны і дагэтуль выходзяць людзі з сярпамі ў руках. Убачыць гэткую карціну можна не толькі ўлетку, падчас свята “Зажынкі”, але і зімой.**

Цяпер з сярпамі на лёд выходзяць нарыхтоўшчыкі трыснягу.

Нарыхтоўваюць яго для патрэб прадпрыемства “ЭкаДомБуд” з вёскі Стахоўцы. Непадалёку, у вёсцы Занарач, дзесяць год працуе цэх па вырабе прадукцыі з трыснягу. З яго робяць цеплаізаляцыйныя пліты для жылых дамоў і іншых пабудоў, дэкаратыўную сетку, арміруючыя тынкавальныя сеткі.

– Якім выдаўся сезон для нарыхтоўкі трыснягу? – спытаў у майстра цэха **Таццяны Вышыванюк**.

– Цяжкі, таму што снежны. А снег не даў добра замерзнуць лёду ў месцах, дзе расце трыснёг. Таму не атрымалася выпусціць на лёд камбайн.

У прадпрыемства ёсць спецыяльны камбайн замежнай вытворчасці для нарыхтоўкі трыснягу. Паколькі сёлета давялося абыходзіцца без яго, нарыхтоўвалі трыснёг уручную. На лёд з сярпамі ў руках выходзілі супрацоўнікі “ЭкаДомБуда”, запрашалі і мясцовых жыхароў. За адзін сноп ім плацілі сем тысяч рублёў. На пачатак гэтага тыдня назапасілі тры з палавой тысячы снапоў.

Ураджай будзе яшчэ больш важкі, бо ёсць нарыхтаваных раней снапы, трэба іх толькі вывезці з азёр. Нарыхтоўвалі трыснёг на азёрах Мястра, Нарач, Баторына. Рабіць гэта можна ў спецыяльна адведзеных месцах, і зразаць трэба толькі аднагадовая парасткі.

Давялося пабачыць, як у цэнтры Мядзела загружалі машыну трыснягу. Каб нарыхтаваць яго, чатыры чалавекі стараліся чатыры дні.

– Як працуецца на зімовым жніве? – запытаў у іх.

– Нармальна, на прыродзе ж. Абы толькі надвор'е дазваляла.

– А куды ж пойдзе пасля перапрацоўкі мядзельскі трыснёг?

– Прадукцыя цэха выкарыстоўваецца для ўзвядзення дамоў у Лепельскім раёне, – адказвае **Таццяна Вышыванюк**. – Яшчэ на Германію ёсць заказ, на Маскву і, вядома, для патрэб беларускага рынку працуем.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СВЯТЫ

# Масленіцу адсвяткуюць у суботу і нядзелю

**МЯДЗЕЛ. Раённае свята “Масленіцу сустракаем, дастатку ўсім жадаем” пройдзе ў суботу, 16 сакавіка, у вёсцы Нарач (Кабыльнік). Пачнецца яно ў 11 гадзін.**

У нядзелю, 17 сакавіка, у Мядзеле на плошчы Шаранговіча пройдзе гарадское свята “А на Масленай нядзелі да нас жаўраночкі прыляцелі”. Выступяць артысты з райцэнтра, вёсак Выгалавічы, Сваткі, Восава. Пачатак – у 12 гадзін.

**ВІЛЕЙКА. Раённае свята “Масленічныя найгрышы” пройдзе 16 сакавіка ў вёсцы Куранец.**

Пачатак свята – у 12.00.

У Вілейцы 17 сакавіка ў Ніжнім парку у 12 гадзін пачнецца народнае гулянне “Зіма, бывай, душа, спявай!”. Наведнікі ўбачаць тэатралізаваны абрад “Гуканне вясны”, выступленне калектываў мастацкай самадзейнасці Палаца культуры, прымуць удзел у гульнявой праграме.

**Аддзел інфармацыі.**

УЛАДА

# Фёдар Дамаценка планаваў працаваць у Маладзечне да 2015 года

**МАЛАДЗЕЧНА. “Рэгіянальная газета” ўзяла інтэрв'ю ў Фёдара Дамаценкі, які працаваў старшынёй Маладзечанскага райвыканкама.**

Прэзідэнт прызначыў яго сваім памочнікам, галоўным інспектарам па горадзе Мінску.

Фёдар Аляксандравіч, віншуем Вас з новым прызначэннем і просім адказаць нашаму выданню на некалькі пытанняў.

**– З якімі пачуццямі і настроем Вы пакідаеце Маладзечна?**

– Са шкадаваннем, бо мае планы былі разлічаныя да 2015 года. Не ўсё атрымалася выканаць у горадзе, у аграпрамысловым комплексе раёна: пабудаваць стадыён у Чысці, бальніцу, школу-сад, дзве новыя фермы, рэканструяваць чатыры. Не хапіла на гэта часу.

**– Што, на Ваш погляд, самае важнае Вы зрабілі за час свайго старшынства?**

– Лічу важным тое, што Маладзечна заўважылі і прызналі на рэспубліканскім узроўні ў бізнесе, добраўпарадкаванні, раён – у нарыхтоўцы кармоў. Мы сталі прыкладам, да нас сталі прыязджаць, каб пераймаць досвед.

**– Чаму навучыла праца ў Маладзечанскім райвыканкаме?**

– Праца ў райвыканкаме дала мне новы досвед у кіраванні. І самае важнае, што Маладзечна – гэта не завод, а горад з велізарным патэнцыялам, які навучыў верыць у выніку, здавалася б, невыканальных задач.

**– Якія пачатыя праекты Вы пакідаеце новаму старшыні выканкама?**

– Я жадаю яму захаваць і прымножыць дасягнутае раёнам.

**– Ці будзеце часам прыязджаць гуляць у валейбол са сваёй камандай?**

– Так.

**“Рэгіянальная газета”.**





 

СПАЖЫВЕЦ

# Ідзём па абноўкі ў сэканд-хэнд?

**МАЛАДЗЕЧНА. Набыць новае адзенне перад надыходам сапраўднага вясенняга цяпла – жаданне, якое ўзнікае ледзь не ў кожнага чалавека.**

Нехта для гэтага накіроўваецца ў крамы ці на рынак, некаторыя набываюць яго за мяжой. А ёсць тыя, для каго месцамі набыцця застаюцца сэканд-хэнды – крамы з паношаным адзеннем. Што сёння могуць прапанаваць сэканд-хэнды і ці варта наведвацца ў іх?

Для таго, каб атрымаць адказы на гэтыя пытанні, мы прайшліся па некаторых такіх крамах Маладзечна.

Крамаў з паношаным адзеннем за апошнія некалькі гадоў у горадзе стала меней. Рэдкімі сталі і так званыя "сэканд-хэнды дома".

Набыць у такіх крамах можна не ўсё, ёсць і свае абмежаванні – напрыклад, нельга прадаваць пасцельную і нацельную бялізну, бутэлечкі для кармлення дзяцей. Для параўнання: у суседняй Літве правілы крыху іншыя – пасцельную бялізну ў сэканд-хэндах там можна набыць без праблем.

– Калі нам у краму патрапілі ніткі-мулінэ для вышыўкі, я не ведала, што з імі рабіць, – распавядае спадарыня Тамара, гаспадыня адной з такіх крамаў. – Пасля аказалася, што на іх ёсць попыт. Прыходзіў нават мужчына, які займаецца вышыўкай, падбіраў ніткі. Якія ў яго былі работы! Ніводнага вузельчыка з двух бакоў! Часам заходзяць такія творчыя людзі, каб набыць неабходныя дробязі – кавалачкі скуры, гузікі ці ніткі.



Фота Аляксандры ПАРАХНІ

Смаргонка Дар'я Баневіч (злева) спрабуе знайсці ў сваёй шафе адзенне, якое яна набывала не ў сэканд-хэндзе. Задача гэта сапраўды няпростая.

### Сэканд-хэнд – не адзенне для бедных

Сярод цяперашніх наведнікаў можна сустрэць моладзь і сталых людзей, мужчын і жанчын, людзей з розным узроўнем заробку.

Апошнія некалькі гадоў мужчыны больш актыўна сталі хадзіць у сэканд-хэнды, адзначаюць у крамах. Часцей сталі хадзіць і жанчыны, якія шукаюць эксклюзіўнае адзенне: напрыклад, вячэрнія сукенкі ці карнавальныя касцюмы для дзяцей.

Маладая маці Паліна заўважае, што тут зручна набываць адзенне для маленькіх дзетак: растуць яны хутка, таму яно амаль не паношанае. Да таго ж гэта добрая эканомія сямейнага бюджэту.

– Я ўпершыню патрапіла ў краму сэканд-хэнд гадоў 10 таму, – кажа **Дар'я Баневіч**, праграміст са Смаргоні. – Мяне туды прывяла мама. Цяпер я пастаянны кліент маладзечанскіх і мінскіх сэкандаў. Набывала там і абутак, і коўдру, і шторы, і спальнік. Плюс сэкандаў не толькі ў цэнах, але і ў тым, што ў іх вы ніколі не знойдзеце таго, што вісіць у кожным шапіку на рынку.

Ёсць сярод пастаянных пакупнікоў і добра забяспечаныя людзі, і модніцы.

– Ёсць пакупнікі, якія прыходзяць і вышукваюць адзенне пэўных фірм, – кажа спадарыня Тамара. – Такія модныя сярод моладзі маркі, як Shark, H&M, Lacoste, Levis трапляюцца ў нас часта. Сярод пакупнікоў сустракаюцца і людзі з тоўстымі кашалькамі. Таму сцвярджэнне аб тым, што сэканд-хэнд – адзенне для бедных – поўная хлусня.

Акрамя фірменных рэчаў пакупнікі могуць атрымаць і іншыя нечаканасці, калі зазірнуць у кішэні.

– Сваёй самай вялікай знаходкай я магу назваць купюру ў 20 еўра (каля 220 тысяч беларускіх рублёў – Аўт.), – дзеліцца гаспадыня крамы. – Бывае, што трапляюцца манеткі. Але часцей за ўсё ў кішэнях сустракаюцца паперовыя насовачкі. Таму кішэні перад выстаўленнем адзення на продаж мы звычайна правяраем – такая насовачка можа адбіць жаданне ў пакупніка набываць рэч.

### Стэрэатыпы пра сэканд-хэнды ўсё яшчэ існуюць

Не ўсе беларусы разумеюць, што хаваецца за надпісам "сэканд-хэнд".

– Бываюць сітуацыі, калі людзі блытаюць крамы з паношаным адзеннем і гуманітарную дапамогу, – кажа спадарыня Тамара. – Пачынаюць тады скардзіцца на высокія кошты. Але наша адзенне – гэта звычайны тавар, з дапамогай якога мы зарабляем сабе на жыццё. Ён не мае нічога агульнага з гуманітаркай.

Рэгулярна знаходзяцца і ахвотнікі здаць сваё адзенне ў краму. Але, вядома, сэканд-хэнды на гэта не разлічаныя. Прыходзяць і тыя, хто нідзе не працуе і хоча атрымаць бясплатнае адзенне.

Ад тых, хто грэбуе паношаным адзеннем, часта можна пачуць, што ў крамах сэканд-хэнда часта непрыемна пахне, спецыфічны пах можа мець і адзенне.

Рэзкі пах – вынік апрацоўкі адзення спецыяльнымі хімікатамі. Часцей за ўсё яго апрацоўваюць фармальдэгідам.

**Адзенне ў сэканд-хэнды рэгіёна прывозяць з Англіі, Францыі, Амерыкі, Літвы, Германіі.**

Апрацоўка праходзіць у кожнай краіне, пра што сведчыць адмысловы сертыфікат, які выдаецца на кожную партыю. На мяжы яго правяраюць беларускія санітарныя службы і даюць сваё заключэнне.

У некаторых існуе і стэрэатып аб тым, што лепей схадзіць у звычайную краму і набыць "нармальнае" адзенне, чым ісці ў сэканд-хэнд.

– Ёсць людзі, якія заходзяць у краму і з асцярогай прымяраюць паношаныя рэчы, – заўважае гаспадыня адной з крамаў. – Некаторыя ж адразу ў нас апранаюць набытую рэч, зрываюць цэннік і ідуць на вуліцу. Не аднойчы бачыла выпадкі, калі падлеткі прыводзілі ў сэканд-хэнд сваіх бацькоў і пераконвалі, што тут адзенне не горшае за той жа рынак.

Гаспадыня крамы вельмі любіць адзенне, якім гандлюе. І сама яна апранутая ва ўсё менавіта з сэканд-хэнда: абутак, штаны, кофта ды камізэлька.

### Як эканоміць пры дапамозе сэканд-хэнда

Кошты на адзенне ўстанаўліваюцца ў залежнасці ад стану рэчаў. Джынсы можна набыць за 100 тысяч рублёў, майкі – ад 15-20 тысяч і вышэй. З адной партыі прыкладна 10-15% – адзенне добрай якасці, каля 10% рэчаў гандляры нават не выстаўляюць на продаж за-за дрэннага стану. А 10-20% ад магчымай выручкі адразу аднімаюць на... крадзяжы.

– Крадуць нашыя людзі вельмі шмат, – каментуе спадарыня Тамара. – У кожнага тэхналогія свая: хто проста ў сумку кладзе, хто падчас прымеркі нешта на сабе выносіць. Прычым людзі трапляюцца рознага ўзросту. Бываюць і такія, якіх мы лавілі за руку, а яны зноў прыходзяць. І не сорамна ж людзям!

На ўсё, што не прадалося за сезон, крамы паніжаюць цэны. Калі і так не прадаецца, то баваўнянае і шарсцяное адзенне можна здаць у старызну. Сінтэтыка часцей за ўсё проста выкідваецца. Спадарыня Тамара распавядае, што былі спробы аддаваць непатрэбнае адзенне ў дзіцячыя дамы. Але там іх не бяруць – кажуць, што ім трэба новае.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

| Курсы валют НБ РБ | 6.03 | 14.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 640.00 | 8 620.00 |
| Еўра | 11 260.00 | 11 230.00 |
| Злоты | 2 723.75 | 2 714.15 |
| Літ | 3 264.69 | 3 255.35 |
| Расійскі рубель | 281.50 | 280.50 |
| Грыўня | 1 060.12 | 1 061.31 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8600/8650 | 8580/8640 |
| Еўра | 11150/11260 | 11150/11270 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.03 | 13.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 105700 | 112800 |
| Сасіскі, 1 кг | 41640 | 45850 |
| Свініна, лапатка, 1кг | 50000 | 58500 |
| Ялавічына, кумпяк, 1 кг | 85000 | 88000 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 23500 | 26900 |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 23500 | 23800 |
| Селядзец, 1 кг | 29800 | 20800 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 85000 | 85000 |
| Рыс, 0,9 кг | 9000 | 9300 |
| Грэчка, 0,9 кг | 8000 | 9800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 11000 | 11000 |
| Алей | 14000 | 16500 |
| Маянэз, 200 г | 4300 | 4650 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 7000 | 7200 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 28000 | 28000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13800 | 13800 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 3600 | 3800 |
| Капуста, 1 кг | 3000 | 3500 |
| Морква, 1 кг | 3900 | 3500 |
| Буракі, 1 кг | 3900 | 4500 |
| Лімоны, 1 кг | 19000 | 18500 |
| Апельсіны, 1 кг | 14000 | 14500 |
| Мандарыны, 1 кг | 19000 | 18500 |
| Памідоры, 1 кг | 23500 | 20000 |
| Агуркі, 1 кг | 30500 | 20000 |
| Перац, 1 кг | 35000 | 38000 |
| Вінаград, 1 кг | 34000 | 35000 |
| Бананы, 1 кг | 12300 | 13000 |
| Яблыкі, 1 кг | 9000 | 7000 |
| Грушы, 1 кг | 22900 | 21000 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 12000 | 12000 |
| Масла, 1 кг | 70000 | 70000 |
| Тварог, 1 кг | 38000 | 40000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 16000 | 15000 |
| Сала, 1 кг | 50000 | 58000 |
| Бульба,1 кг | 3000 | 10000 (5л) |
| Мёд, 1 кг | 60000 | 50000 |

КРЫМІНАЛ

# Засцеражыцеся ад крадзяжоў




Статыстыка рэчаў, якія ўкралі ў жыхароў Маладзечанскага раёна ў студзені і лютым 2013 года.

**МАЛАДЗЕЧНА. У Маладзечанскім раёне крадзяжоў стала на трэць менш.**

Калі летась за апошнія два месяцы адбыўся 161 крадзеж, то сёлета за першыя два месяцы – усяго 107.

Крадзяжоў стала менш з-за таго, што павялічылася базавая велічыня, і не ва ўсіх выпадках узбуджаецца крымінальная справа.

Пераважная большасць з іх адбылася ў Маладзечне і Радашкавічах (амаль 2/3 ад усіх выпадкаў).

Крадзяжоў у буйным альбо асабліва буйным памеры сёлета ўвогуле не было. Хаця летась за два месяцы адбыліся адразу тры такія крадзяжы.

### Партрэт злодзея

Калі прааналізаваць тых, каго сёлета судзілі за крадзеж, то гэта ў большасці мужчыны. Жанчын – чвэрць.

Амаль усе зладзеі беспрацоўныя. Палова кралі нецвярозымі і былі раней асуджаныя.

### Як мяркуе злодзей

Чалавек, які нешта крадзе, звычайна абдумвае два галоўныя крокі: як украсці і як потым збыць накрадзенае.

Менавіта з-за таго, што злодзей часта вельмі хутка прадае тое, што ўкраў, яго складана знайсці. А калі яго ўсё ж такі знаходзяць, яшчэ складаней вярнуць рэчы, якія зніклі ў гаспадара.

Калі ж і рэчы знаходзяць, то выгляд у іх часта ўжо нашмат горшы, чым быў да крадзяжу. І гаспадар застаецца незадаволеным, хоць і злодзей знойдзены, і рэчы вернутыя.

Таму лепш самому паклапаціцца пра свае рэчы, каб яны засталіся вашымі, а не злодзея. Мы раім ставіць кватэру на сігналізацыю.

Па-першае, у гэтым выпадку міліцыя прыедзе вельмі хутка, бо сігнал паступіць адразу пасля пранікнення. Па-другое, калі ў вас стаіць сігналізацыя, але міліцыя не змагла затрымаць злодзея і не вярнула скрадзеныя рэчы, то яна сама ўсё кампенсуе.

Таму ў любым выпадку вы нічога не страціце. А ў міліцыянераў тым часам з'яўляецца стымул працаваць як мага хутчэй.

### Прычыны крадзяжоў

Большасць з іх адбываецца з-за бестурботнасці людзей. Яны думаюць: “Гэта можа адбыцца з кім заўгодна, толькі не са мной”. Але гэта памылковая думка.

Я не ведаю ніводнага чалавека, які б паставіў сігналізацыю і сказаў: “Дарма паставіў, бо ніхто ў мяне нічога не крадзе!”

Трэба памятаць, што ніхто не паклапоціцца пра вашу маёмасць, акрамя вас саміх.

**Яўген БЕРКУТАЎ,**
**начальнік штаба Маладзечанскага РАУС.**

НЕБЯСПЕКА

## Усялякі лёд да цяпла жыве

**МАЛАЗЕЧНА. З надыходам вясны пад уздзеяннем сонечных праменяў лёд хутка растае. Яшчэ больш разбуральныя дзеянні аказвае імкліва цякучая вада ў рэках, якая падточвае яго знізу.**

З кожным днём ён становіцца ўсё больш сітаватым, друзлым і слабым. Цалкам зразумела, што перамяшчэнне па такім лёдзе – вялікая небяспека.

Трэба ведаць, што вясновы лёд вельмі адрозніваецца ад восеньскага і зімовага. Калі восеньскі лёд пад нагамі чалавека пачынае трашчаць, папярэджваючы аб небяспецы, то вясновы лёд не трашчыць, а правальваецца, ператвараючыся ў ледзяную кашу.

Небяспечна знаходзіцца на вясновым лёдзе вадасховішчаў. Былі неаднаразовыя выпадкі, калі адрываліся вялікія кавалкі лёду, на якіх знаходзіліся рыбаловы і дзеці.

Дзецям пераходзіць вадаёмы вясной строга забараняецца. Асабліва недапушчальныя гульні на лёдзе. Скакаць з крыгі на крыгу і аддаляцца ад берага вельмі небяспечна. Такія ўчынкі, як правіла, заканчваюцца трагічна.

Пры руху па лёдзе праверайце яго трываласць падручнымі сродкамі, напрыклад, лыжнай палкай. Правяраць лёд ударамі ног вельмі небяспечна. Трывалым лічыцца празрысты лёд з сіняватым або зеленаватым адценнем. Нетрывалы лёд матавы ці белы.

Падчас паводкі і крыгаходу небяспечна знаходзіцца на абрывістым беразе, бо хуткая плынь вады падмывае і бурыць яго. Вось чаму вясной неабходна максімальна ўзмацніць назіранне за дзецьмі, кантраляваць іх месцазнаходжанне, весці сярод іх тлумачальную гутарку.

Спосабы ратавання тапельца на вясновым лёдзе аналагічныя спосабам ратавання на восеньскім ці зімовым лёдзе, але маюць свае асаблівасці і ўяўляюць пэўную складанасць.

Па-першае, рыхласць лёду ўскладняе дзеянне тапельца і патрабуе вялікай выносілівасці.

Па-другое, рух лёду абцяжарвае працу ратавальнікаў.

Па-трэцяе, ратуючы чалавека, неабходна ўмела кіраваць лодкай, катэрам, каб абысці крыгі, рассунуць іх і падысці да тапельца, не пагоршыць яго становішча.

У перыяд паводкі рэзка павялічваецца плынь вады, утвараючы вялікую колькасць віроў. Яны небяспечныя не толькі для тапельцаў, але і для ратавальнікаў.

**Марына ЕРМАКОВА,**
**інспектар прапаганды і навучання Маладзечанскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях.**

КРЫМІНАЛ

## Вясна паказала, хто дзе краў

**ВАЛОЖЫН. Каля вёскі Туркаўшчына на Валожыншчыне ў двух лецішчах садовага таварыства “Бярозка” выявіліся крадзяжы, што адбыліся зімой.**

Абедзве пацярпелыя – мінчанкі. Звярнуліся яны ў адзін дзень, 8 сакавіка.

Адна з іх была на сваім лецішчы апошні раз 8 лютага. Яна не знайшла ў сябе электраінструмент коштам 4,5 мільёна рублёў.

Другая была на лецішчы 31 снежня. У яе знікла мікрахвалевая печ і інструмент на агульную суму 3,8 мільёна рублёў.

Дамы жанчын знаходзяцца блізка. У абодва злодзей пранік, разбіўшы шыбы.

Менавіта таму намеснік начальніка валожынскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Віталь Мінкевіч** лічыць, што хутчэй за ўсё ў абодвух крадзяжах вінаваты адзін чалавек.

– Наогул гэта нармальная сітуацыя, – кажа **Віталь Мінкевіч**. – Нармальная ў тым сэнсе, што людзі вяртаюцца пасля вясны на свае лецішчы і выяўляюць крадзяжы.

**Настасся РОЎДА.**

СЛУЖБА 101

## Мужчына падпаліў дом, каб схаваць забойства

**ВІЛЕЙКА. 12 сакавіка загарэўся двухкватэрны жылы дом у Вілейцы па вуліцы Савецкай, 15. Выгарала кватэра №1, пашкоджаны дах. На падлозе знайшлі цела 27-гадовага гаспадара.**

Пра пажар стала вядома ў 6.04, паведаміў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**. Патэлефанавалі суседзі, паведамілі, што чутны трэск шыферу і бачны дым. Падраздзяленні райаддзела прыбылі праз чатыры хвіліны.

Палова дома на дзве сям'і была ахопленая агнём. У адной кватэры знаходзіўся мужчына, у другой – 76-гадовая пенсіянерка. Пажарныя вынеслі бабулю з палаючага памяшкання. Яна шпіталізаваная з дыягназам “атручэнне чадам”. Мужчыну знайшлі ў пакоі на падлозе.

Згодна з папярэднім заключэннем судова-медыцынскай экспертызы, смерць наступіла ад многіх колатых ран брушной поласці і грудной клеткі, паведамляе ўпраўленне унутраных спраў Мінаблвыканкама.

Устаноўлена, што 12 сакавіка каля 3 гадзін ночы 35-гадовы мясцовы жыхар, непрацуючы, у стане алкагольнага ап’янення, падчас сваркі нанёс мужчыну не менш за дваццаць удараў нажом па розных частках цела. Ад іх пацярпелы памёр на месцы.

Потым падазраваны падпаліў дом і схаваўся. Ён затрыманы.

Пазней у справе стала двое падазраваных. Па папярэдніх дадзеных, у забойстве падазраюцца 35-гадовы муж і 25-гадовая жонка, якія знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення. Потым яны падпалілі дом. Падазроныя затрыманыя.

Раённым аддзелам Следчага камітэта ўзбуджаная крымінальная справа. Такое злачынства караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад васьмі да дваццаці пяці гадоў, або пажыццёвым зняволеннем, або смяротным пакараннем.

**Аддзел інфармацыі.**



## Следчы камітэт шукае відавочцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Шукаюць сведкаў і відавочцаў аварыі, якая адбылася 9 сакавіка каля 23.20 на дарозе каля дома №72 па Вялікім Гасцінцы ў накірунку да гімназіі №6.**

Кіроўца аўтамабіля “Таёта Ярыс Верса” (рэгістрацыйны нумар 3907IC-5) збіў пешахода, які пераходзіў дарогу злева направа па ходу руху машыны. Ён атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Пераканаўча просім відавочцаў аварыі патэлефанаваць па нумарах: **8-029-7082995** альбо **77-10-89** з 09.00 да 18.00 з панядзелка па пятніцу следчаму **Віктару Вікенцьевічу Зяневічу**.

**Пётр ВАРАЧКОЎ, начальнік Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта.**

# Маю права

Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# Уласніка-даўжніка змогуць выселіць за 1,5 года



Фота bigpicture.ru

Цяпер высяляць з кватэры даўжнікоў і былых мужа ці жонку стала прасцей.

**БЕЛАРУСЬ. Ад 2 сакавіка ўступіў у сілу новы Жыллёвы кодэкс. Згодна з ім уласнікаўдаўжнікоў, якія не плацяць за жыллё больш за паўгода, можна будзе высяляць у іншае жыллё, якое можа саступаць па памерах, выгодах і ўвогуле знаходзіцца ў іншым населеным пункце.**

Калі на наймальніка на працягу года складаюць тры і больш адміністрацыйныя пратаколы за парушэнне правілаў пражывання, то разам з членамі сям'і яго могуць выселіць і нават не прапанаваць іншай жылплошчы. Зразумела, гаворка тут не ідзе аб пратаколах за парушэнне правілаў дарожнага руху або лоўлі рыбы ў перыяд вясновага нерасту. Маюцца на ўвазе пашкоджанні маёмасці, якая знаходзіцца ў доме, стварэнне антысанітарных умоў пражывання, скандалы, хуліганскія дзеянні, што закранаюць суседзяў, і іншыя парушэнні нормаў інтэрната.

Асобная гутарка – уласнікі жылых памяшканняў. Дапусцім, уладальнік кватэры без уважлівых прычын больш за 6 месяцаў не плаціць за жыллёва-камунальныя паслугі, пасля чаго атрымлівае па пошце папярэджанне ад мясцовай адміністрацыі. На пагашэнне запазычанасці яму даюць месяц. Калі за гэты час ён не ліквідуе яе цалкам і магчымасці вяртання доўгу за кошт іншай маёмасці ўласніка няма, выканкам мае права сваёй іскавай заявай змусіць яго да адчужэння жылля. Калі за год яно так і не прададзена, а доўг не выплачаны, жыллё па рашэнні суда падлягае прымусоваму продажу з публічных таргоў. Потым з сумы, атрыманай пасля аўкцыёну, аплачваецца запазычанасць, уласніку на працягу двух месяцаў вяртаюць рэшту сродкаў і набываюць новую жылплошчу.

Атрымліваецца, што ўласніка могуць канчаткова пазбавіць прыватызаванага жылля за 1,5 года.

## Былых жонак і мужоў можна выселіць на вуліцу

Уласнік кватэры можа выселіць сваіх паўналетніх членаў сям'і фактычна на вуліцу, калі тыя вядуць асацыяльны лад жыцця альбо парушаюць правілы пражывання. Ён мае права выселіць і былых членаў сям'і. Перш за ўсё тут маюцца на ўвазе былыя муж і жонка, якія працягваюць жыць пасля разводу ў бацькоўскай кватэры.

Цяпер для іх высялення нават не трэба, каб з боку былога мужа ці жонкі былі нейкія адміністрацыйныя парушэнні. Калі апошнія не маюць сваёй долі ў агульнай уласнасці і разводзяцца, то іх высяляюць па патрабаванні ўласніка і ім не даецца іншае жыллё. Вядома, калі гэты момант не прапісаны ў шлюбным дагаворы або ў пісьмовым пагадненні. Скажам, калі муж і жонка заключылі такое пагадненне і агаварылі, што пасля разводу права карыстання бацькоўскай кватэрай мужа ў былой жонкі захоўваецца, норма па высяленні не будзе мець ніякай сілы.

Гэтая норма будзе тычыцца не толькі тых, хто аформіць развод пасля 2 сакавіка, а ўсіх. Адзінае, што з моманту ўступлення ў сілу новага Жыллёвага кодэкса былым членам сям'і ўласніка ў выпадку падачы іску дадуць год адтэрміноўкі. Гэта значыць, што іх змогуць выселіць з жылля не раней за 2 сакавіка 2014 года.

## Стане вядома, куды ідуць грошы за тэхабслугоўванне

Па новым кодэксе ў аплатных дакументах абавязкова павінны паказвацца тарыфы, аб'ёмы аказаных жыллёвых паслуг, а таксама пералік такіх паслуг па шматкватэрным жылым доме. Магчыма, што да жыровак, якія існуюць цяпер, зробяць дадатак.

## Адключэнні гарачай вады будуць карацейшыя

Такая норма з'явілася ў раздзеле эксплуатацыі жыллёвага фонду. З гэтага часу тэрміны правядзення прафілактычных і рамонтных работ на цеплавых сетках і сетках гарачага водазабеспячэння ў міжацяпляльны перыяд, як правіла, не могуць перавышаць двух тыдняў.

Калі ж гэтыя тэрміны будуць неабгрунтавана затрымалыя, жыхары могуць падаць іск на раённую ці абласную жыллёва-камунальную гаспадарку.

## За звальненне па артыкуле пазбавяць інтэрната

Тых, хто засяляўся сёлета ў ведамасныя інтэрнаты пасля 2 сакавіка, а потым звольніцца з працы на прадпрыемстве, чакае высяленне без скідак на стаж і ўзрост членаў сям'і. Другую жылплошчу ім не дадуць.

Усіх, хто засяляўся ў ведамасны інтэрнат і спыніў працоўныя адносіны да ўступлення ў сілу новага кодэкса, гэтая норма не закране. Аднак тут ёсць адно выключэнне. Калі наймальніка жылля звольнілі па артыкуле за парушэнне працоўнай дысцыпліны, ён таксама будзе выселены разам з членамі сям'і без прапановы іншай жылплошчы. Нават нягледзячы на тое, што ён адпрацаваў больш за дзесяць гадоў і скасаваў працоўныя адносіны да 2 сакавіка.

## Апублікуюць спісы дамоў, якія зачыняць на капітальны рамонт

Да 1 лютага ў СМІ будуць публікавацца спісы дамоў, якія ў гэтым годзе ставяцца на капітальны рамонт. Прычым павінны быць пазначаныя не толькі нумары дамоў, але таксама тэрміны пачатку і заканчэння работ. Акрамя таго, тут жа можна будзе ўбачыць перспектыўныя планы капрамонту і цеплавой мадэрнізацыі на бліжэйшыя пяць гадоў.

**Даведка "РГ".** Членамі сям'і лічацца: муж, жонка, дзеці (у тым ліку ўсыноўленыя ці ўдачароныя), бацькі (у тым ліку ўсынавіцелі ці ўдачарыцелі), браты і сёстры, дзядулі і бабулі, унукі, якія жывуць разам з уласнікам, наймальнікам ці паднаймальнікам, сябрам арганізацыі грамадзянзабудоўшчыкаў і ў якіх з ім агульная гаспадарка. Таксама да гэтай катэгорыі адносяцца іншыя сваякі, непрацаздольныя ўтрыманцы, якія жывуць разам з уласнікам і вядуць з ім агульную гаспадарку і якія заключылі з ім пісьмовае пагадненне аб прызнанні іх членамі сям'і.

**Паводле Васіля МАЦВЕЕВА, "Рэспубліка".**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# У якім узросце юнакі і дзяўчаты могуць жыць асобна ад бацькоў?



**Дзмітры Стануль, гандлёвы агент:**

– Адназначна цяжка адказаць на гэта пытанне. Мабыць, кожнаму свой узрост. Бывае такое, што чалавек і ў 16 гадоў ужо здольны самастойна адказваць за свае ўчынкі і цвёрда стаіць на нагах, а 30-гадоваму, напрыклад, далёка да гэтага.



**Алена Мятліцкая, прадавец:**

– Дзеці з 18 гадоў павінны імкнуцца да самастойнасці. Яны ўжо будуць ведаць, як зарабляць грошы, як забяспечыць сябе і рабіць менш памылак у жыцці. Ад гэтага толькі лепш будзе бацькам і дзецям. Трэба з самага пачатку выхоўваць так сваіх дзяцей.



**Валянціна Лапша, юрыст, у дэкрэтным адпачынку:**

– Калі дзеці лічаць сябе цалкам самастойнымі ці бацькі бачаць, што яны ўжо самастойныя, то і ў 18 гадоў могуць жыць асобна. Я сама мама дзвюх дачок, вельмі перажываю за іх і вядома не хацела б, каб менавіта ў гэтым узросце яны пачалі жыць асобна.



**Ірына Храпавіцкая, пенсіянерка:**

– Лічу, што дакладна з 18-ці. І толькі асобна. Тады маладыя будуць больш адказнымі. Канешне, дапамагаць ім трэба. Я ўсё сваё жыццё пражыла са свякрухай, а цяпер і старэйшы сын са мной жыве, бо няма пакуль сродкаў пабудаваць кватэру.



**Наталля Барэйка, сакратар СШ №9:**

– Магчыма, жыць асобна трэба з 18-ці, калі чалавек ужо паўналетні і сам можа адказваць за свае ўчынкі ці калі юнакі і дзяўчаты завядуць сваю сям'ю. Я сама пайшла ад бацькоў у 21 год, калі выйшла замуж.



**Юры Пякарскі, слесар МЗР:**

– Да гадоў 20-ці трэба жыць з бацькамі. Але, па вялікім рахунку, усё залежыць ад выхавання ў сям'і. Калі малады чалавек ці дзяўчына адчуваюць сябе дастаткова самастойна ў жыцці, не баяцца якіх-небудзь цяжкасцей, то абавязкова трэба пачынаць жыць асобна.



**Алеся Дзятлік, майстар-цырульнік:**

– Калі чалавек не залежыць матэрыяльна ад бацькоў, значыць, прыйшоў час мець асобнае жыллё. І зусім не важна ў якім узросце. Вядома, чым раней гэта здарыцца, тым лепш.

**Аляксандра ЭГЕРТ.**

МАСТАЦТВА

# "Іншыя светы" мастачкі Ірэны Ханеўскай

**МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтральнай раённай бібліятэцы да канца сакавіка працуе філасофская выстава графікі "Іншыя светы" Ірэны Ханеўскай.**

Мастачка – вучаніца маладзечанскіх майстроў **Ядвігі Раздзялоўскай** і **Кастуся Харашэвіча**, арганізатараў мастацкай студыі.

## Алоўку не хапае тонкасці

Ірэна Ханеўская стварае пяром і тушшу. Прац, выкананых алоўкам, няма: аловак не дае патрэбнай тонкасці ліній.

Былі працы, зробленыя акварэллю і алеем, але Ірэна спыніла свой мастацкі позірк на графіцы. Мастачка лічыць, што перадаць выявы, якія паўстаюць у яе ўяўленні, найбольш дакладна можна менавіта графікай.

Яе творы знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, ЗША, Германіі, Венгрыі, Польшчы, Прыбалтыкі, Швецыі. Але ў той жа час на працягу 20-і гадоў яна працуе ў цэнтральнай раённай бібліятэцы мастаком-афарміцелем. І ў вольны час любіць пачытаць, яна была ў актыве маладзечанскага таварыства кнігалюбаў.

Абраныя пісьменнікі – Рэмарк, Джэк Лондан, Эдгар По, Рэй Брэдберы, Бунін, Дастаеўскі. З апошняга прачытанага асабліва ўразіў Дэвід Айк.

У Ірэны двое дзяцей. Сын стаў дызайнерам, дачка – бухгалтар. Дачка скончыла музычную школу, а сын арганізаваў музычны гурт.



Фота забяспечана Ірэнай ХАНЕЎСКАЙ.

Карціна мастачкі.



Фота забяспечана Ірэнай ХАНЕЎСКАЙ.

Мастачка Ірэна Ханеўская.

## Вечарыны ў Ядвігі Раздзялоўскай

У студыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва яна вучылася тры гады адразу пасля школы.

– Ядвіга Іосіфаўна стварала асаблівую атмасферу, яе кватэра стала мясцовым цэнтрам культуры для тутэйшых мастакоў, музыкантаў і акцёраў. На гэтых сустрэчах прысутнічалі таксама **Мікалай Аўчыннікаў, Алесь Пашкевіч, Кастусь Харашэвіч, Галіна Еўдакімчыкава, Юры Церабун, Васіль Лазоўскі, Юры Герасіменка** і іншыя, – распавядае Ірэна Ханеўская. – Вечарыны называлі шапэнаўскімі, таму што на іх слухалі музыку Шапэна. А гэта любімы кампазітар гаспадыні. Дарэчы, яна з кампазітарам нарадзіліся ў адзін дзень – 1 сакавіка.

Ірэна разам з настаўніцай на мастакоўскія спатканні звычайна гатавалі бутэрброды пяці відаў і піражкі.

Было сорамна не прынесці на асабістыя сустрэчы з настаўніцай новыя працы. Раздзялоўская ставілася да іх з вялікай увагай. Ядвіга Іосіфаўна заўсёды пыталася, як ідзе праца. Гэта вельмі падштурхоўвала, не працаваць было нялёмка.

– Мне пашчасціла не проста сустрэць такую ўнікальную асобу, але і вучыцца ў яе, – тлумачыць аўтар выставы. – Настаўніцу я заўсёды ўзгадваю з цеплынёй, удзячнасцю і любоўю.

Раздзялоўская была для Ірэны не проста педагог, а настаўнік па жыцці.

## Выстава падштурхнула да новых прац

– Гэтая выстава дала мне новы штуршок для працы, – падсумавала размову мастачка. – Наведнікі дзяліліся ўражаннямі, і гэта шмат што дало мне. Цяпер пачалася новая плынь працы. Я жадаю, каб людзі усё ж такі пачалі заўважаць, што свет куды больш шырокі і глыбокі, чым бачна на першы погляд. Упэўненая, што мая выстава дае магчымасць бачыць іншыя светы і таксама раскрываць іх у сабе.

**Ілля САНЬКО.**

ВЫСТАВЫ

# Калекцыя патомнага казака

**МЯДЗЕЛ. У музеі народнай славы праходзіць выстава "Беларусь. Салдаты Перамогі". На ёй прадстаўленая калекцыя патомнага казака.**

Тут ёсць сапраўдныя ўзоры вайсковага абмундзіравання, амуніцыі, узнагароды, знакі адрознення байцоў Чырвонай Арміі і партызанаў, фотаздымкі, дакументы, работы салдацкай творчасці.

Ёсць узоры армейскага абмундзіравання і амуніцыі нямецкіх салдат, якія выкарыстоўваліся партызанамі і савецкімі салдатамі ў разведвальных аперацыях. Можна пабачыць халодную зброю: шашкі, кінжалы. Усё гэта – з калекцыі мінчаніна **Ігара Бабіцкага.**

– Пятнаццацігадовым хлопцам ён захапіўся збіраннем артэфактаў, – расказвае дырэктар музея **Святлана Чарняўская**. – Некаторыя экспанаты дасталіся Ігару ў спадчыну. Ад дзеда Івана ў калекцыю перавандравала будзёнаўка, боты са шпорамі і шапка часоў руска-японскай вайны 1905 года. Экспанаты для будучай калекцыі знаходзіліся ў самых розных месцах: каску, якія насілі ўдзельнікі ваеннага канфлікту на рацэ Халхін-Гол, Ігар знайшоў на каркасе згарэлай машыны, рускі кацялок з заводскім знакам 1911 – у кучы смецця. Усяго ж калекцыя Ігара Бабіцкага налічвае некалькі тысяч асобнікаў.

На выставе можна пазнаёміцца з узорамі формы казацкіх дывізій. І гэта не дзіва: Ігар Бабіцкі – патомны казак.

– Усё сваё жыццё ён пражыў у Беларусі, але яго продкі былі данскімі і кубанскімі казакамі, – знаёміць з біяграфіяй калекцыянера Святлана Чарняўская. – Ігар Бабіцкі мае казацкае званне пад'есаул, яго жонка таксама казацкага роду, у званні харунжага. У духу казацкіх запаведзяў і традыцый выхаваны сын **Арцём**.

Працаваць выстава ў мядзельскім музеі будзе да 27 сакавіка.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КОНКУРСЫ

# Мастацкія таленты выкавалі

**ВІЛЕЙКА. У нядзелю, 10 сакавіка, завяршыўся раённы агляд-конкурс калектываў мастацкай самадзейнасці клубных устаноў Вілейшчыны.**

Называўся ён "Наш клуб – талентаў кузня". Пачаўся агляд-конкурс 24 лютага. Падчас яго сваю праграму дэманстравалі сельскія Дамы культуры і клубы. Ацэньвала іх выступленне журы, якое складалася з прадстаўнікоў аддзела культуры і раённага метадычнага цэнтра.

А ўзнагароджанне лепшых адбудзецца падчас свята на Сёмуху, якое адбудзецца ў Сцешыцах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ГІСТОРЫЯ

# Вялікі Сэрвач – “раскіданае гняздо” Козелаў-Паклеўскіх

*Працяг. Пачатак у №9.*

**ВІЛЕЙКА. 150 гадоў мінулі ад пачатку паўстання 1863 года.**

Годны ўдзел у падзеях таго часу бралі пяцёра братоў Козелаў-Паклеўскіх, якія нарадзіліся ў маёнтку Вялікі Сэрвач (цяпер вёска Вялікая Сэрвач).



Вінцэнт Козел-Паклеўскі.



Юзаф Козел-Паклеўскі.

### Вінцэнт Козел-Паклеўскі (1838-1863)

Нарадзіўся ў 1838 годзе ў маёнтку Вялікі Сэрвач Вілейскага павета. Таксама як і яго старэйшы брат Ян да 1852 года быў на хатнім выхаванні.

У 1852 годзе разам з Янам паступіў у школу гвардзейскіх падпрапаршчыкаў у Пецярбургу, скончыўшы якую ў 1856 годзе застаўся вучыцца ў Пецярбургу на вайсковага інжынера разам з братам.

Падчас вучобы належаў да афіцэрскай рэвалюцыйнай арганізацыі пад кіраўніцтвам З. Серакоўскага і Я. Дамброўскага. У 1858 годзе скончыў акадэмію і быў накіраваны на службу ў Вільню. Праз год пераведзены ў фінскі Свеаборг, дзе і служыў ваенным інжынерам да канца 1860-га. У гэтым жа годзе сыходзіць са службы ў званні штабс-капітана.

На пачатку 1861-га па даручэнні кіраўніка віленскіх “чырвоных” Л. Звяждоўскага едзе ў Познань, каб наладзіць стасункі з тамтэйшымі патрыётамі. У сакавіку 1861 года вяртаецца на радзіму, дзе стварае рэвалюцыйную арганізацыю ў Вілейскім павеце.

У студзені 1863 года прызначаны ваенным кіраўніком роднага Вілейскага павета, шырока прапагандаваў сярод насельніцтва прafграмныя дакументы паўстання. Паводле ўспамінаў удзельніка тых падзей на Міншчыне В. Кошчыца, паўстанцкая арганізацыя ў Вілейскім павеце дзякуючы Козелу стаяла на самым высокім узроўні, прынамсі праца тут была наладжаная лепш, чым у большасці паветаў Мінскай губерні.

На пачатку мая 1863 года згуртаваў і ўзначаліў паўстанцкі атрад, у якім налічвалася 200-250 чалавек. 28 мая 1863 загінуў у бітве з царскімі войскамі каля вёскі Уладыкі. Разам з ім палегла большая частка яго атрада.

Паўстанцкая публіцыстыка ставіла Вінцэнта Козела ў адзін шэраг з кіраўніком лідскіх паўстанцаў Людвікам Нарбутам і называла “Літоўскім Леанідам” (па аналогіі са спартанскім царом, знакамітым героем Фермапіл).

Пахаваны Вінцэнт Козел-Паклеўскі быў у брацкай магіле каля вёскі Уладыкі, разам з іншымі загінулымі ў тым баі паўстанцамі.

Але існуюць звесткі аб тым, што яго бацька, Ян Козел, уладальнік Сэрвачы, употайкі перапахаваў цела Вінцэнта і яго малодшага брата Міхала, таксама загінуўшага пад Уладыкамі, у родным Сэрвачы, пад касцёлам, каб не знайшлі расейскія ўлады.

Касцёл той у пачатку 1950-х разабралі і перавезлі ў вёску Давыдкі, пад клуб. Цяпер на месцы колішняга касцёла ў Сэрвачы невялічкі пагорак, а на ім – металічны крыж. Гэта і ёсць месца пахавання камандзіра вілейскіх паўстанцаў.

Ён загінуў, але да гэтага часу з пакалення ў пакаленне перадаюцца яго апошнія словы: “Не мы, дык нашы косці здабудуць свабоду”.

### Юзаф Козел-Паклеўскі (1845-1915)

Нарадзіўся ў 1845 годзе ў маёнтку Вялікі Сэрвач Вілейскага павета. Брат Яна і Вінцэнта Козелаў-Паклеўскіх. Удзельнік паўстання 1863 года. Пасля задушэння паўстання быў сасланы ў салдаты ў Омск.

Дзякуючы сувязям сваяка Альфонса Фаміча Козела-Паклеўскага быў накіраваны адбываць пакаранне на Таліцкі вінакураны завод, які належаў А.Ф. Козелу-Паклеўскаму.

Ад 1890 года ён ужо кіраўнік канторы Таліцкіх заводаў, упаўнаважаны па справах гандлёвага дома “Нашчадкі А.Ф. Козела-Паклеўскага”. Займаў шэраг пасад у Пермскай губерні. Ахвяраваў шмат грошай на мэты развіцця адукацыі і медыцыны Урала.

Быў жанаты на Юліі Паўлаўне Козел-Паклеўскай (ад 1883), дачцэ Паўла Козела-Паклеўскага, уладальніка маёнтка Дзекшне Вількамірскага павета, удзельніка паўстання 1863 года, ад якой меў трох сыноў: Тадэвуша, Вінцэнта і Юзафа.

Памёр 31 студзеня 1915 года ў Таліцы Камышлоўскага павета Пермскай губерні, дзе і пахаваны.

Пасля яго смерці жонка Юлія разам з сынамі вяртаецца ў Вялікі Сэрвач і дзеліць спадчыну мужа паміж нашчадкамі. Старэйшы сын Юзаф атрымаў Вялікі Сэрвач, Вінцэнт – толькі пабудаванае Людвінова, з закладзенай у ім фермай серабрыстых ліс, а малодшы Тадэвуш атрымаў Кастыкі, у якіх быў вадзяны млын.

З трох братоў натуральнай смерцю памёр толькі старэйшы Юзаф, у якога было пяцёра дзяцей: Эльжбэта, Ізабэла, Юлія, Тадэвуш і Міхал, якія цяпер жывуць у Польшчы.

Сярэдні брат Вінцэнт быў расстраляны НКВД у 1940 годзе ў лагеры польскіх ваеннапалонных у Казельску.

Малодшы з братоў Тадэвуш быў расстраляны немцамі ў 1942 за ўдзел у Арміі Краёвай.

### Зянон Козел-Паклеўскі (1842-1878)

Нарадзіўся ў маёнтку Вялікі Сэрвач у 1842 годзе. Брат Яна і Вінцэнта Козелаў-Паклеўскіх.

У 1863 годзе вучыўся ў Віленскай гімназіі. За рэвалюцыйную агітацыю сярод вучняў гімназіі ў лютым 1863-га быў сасланы на тры гады ў Арэнбургскі асобны корпус простым шарагоўцам.

### Міхал Козел-Паклеўскі (1847-1863)

Нарадзіўся ў 1847 годзе ў маёнтку Вялікі Сэрвач Вілейскага павета. Малодшы з братоў Козелаў-Паклеўскіх. Удзельнік паўстання 1863 года. Загінуў у баі з царскімі войскамі каля вёскі Уладыкі разам з братам Вінцэнтам. Перапахаваны бацькам у родным Сэрвачы пад алтаром сэрвацкага касцёла.

Вось мы і даведаліся, адкуль у Сэрвачы з'явіліся браты-паўстанцы і хто былі іх продкі. А цяпер паспрабуем уявіць сабе, як выглядаў Вялікі Сэрвач у часы паўстання.

**Працяг будзе.**

**Зміцер ХАЦЕНЧЫК, сябра вілейскай суполкі “Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры”.**

**Архіўныя дакументы і фотаздымкі перададзеныя старшынёй суполкі Дзянісам КАНЕЦКІМ.**

КАЛЯНДАР

**145 гадоў** назад у мястэчку Краснае (Маладзечанскі раён) нарадзіўся Мікалай Кладніцкі (1868–1939), доктар-эпідэміёлаг, доктар навук, ініцыятар і арганізатар супрацьчумных мерапрыемстваў у Расіі.

***

**105 гадоў** назад (1908) у мястэчку Свір Мядзельскага раёна на месцы касцёла, пабудаванага ў 1653 годзе, узведзены з цэглы новы – Мікалаеўскі. З'яўляецца помнікам архітэктуры з элементамі неабарока.

***

**15 сакавіка.** Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

***

**110 гадоў** з дня нараджэння Арсена Арсенкі (1903 – 1945), беларускага і ўкраінскага спевака, народнага артыста Беларусі.

***

**16 сакавіка.** 115 гадоў з дня нараджэння Марка Шнэйдэрмана (1898 – 1981), дырыжора, кампазітара, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

***

**17 сакавіка.** 10 гадоў таму (2003) выйшаў у свет першы нумар “Краязнаўчай газеты” (заснавальнік – Беларускі фонд культуры).

***

**115 гадоў** з дня нараджэння Ізі Харыка (Ісака Давыдавіча) (1898 – 1937), беларускага паэта.

***

**85 гадоў** назад (1928) у Рэчыцы ўступіла ў лік дзеючых запалкавая фабрыка “Днепр”.

***

**110 гадоў** з дня нараджэння Веры Мальковай (1903 – 1964), спявачкі, народнай артысткі Беларусі.

***

**95 гадоў** з дня нараджэння Паўлюка Пранузы (Паўла Кузьміча) (1918 – 2007), беларускага паэта.

***



**80 гадоў** з дня нараджэння Леаніда Смялкоўскага (1933 – 1995), беларускага дамрыста, дырыжора, кампазітара, заслужанага артыста Беларусі.

***

**19 сакавіка.** 380 гадоў таму (1633) вялікі князь літоўскі, кароль польскі Уладзіслаў IV даў Магілёўскаму брацтву прывілей на права адкрыцця друкарні і выдання кніг на беларускай, польскай, грэчаскай і лацінскай мовах.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ВЫХАВАННЕ

# Фразы, якія казаць дзіцяці нельга



Фота yokid.net.

Бацькі неасцярожнымі словамі могуць сапсаваць адносіны з дзецьмі на ўсё жыццё.

**Здам у дзіцячы дом! Самае страшнае, што можа пачуць дзіця ад сваіх бацькоў. Многія дзеці будучы ўжо дарослымі і сямейнымі людзьмі з горыччу ўспамінаюць аб учынках уласных мам і тат.**

Псіхолаг маладзечанскай гімназіі №6 **Раман Сівіцкі** раіць бацькам назаўсёды выключыць гэтыя фразы са свайго лексікона, бо яны застаюцца ў памяці дзяцей на ўсё астатняе жыццё.

### "Ты мне абавязаны ўсім"

Гэтая простая фраза можа назаўжды забіць даверныя і цёплыя адносіны паміж бацькамі і дзецьмі. Бацькі даюць дзіцяці жыццё, выхоўваюць яго і не павінны патрабаваць ад дзяцей падзякі за гэта.

Нараджаць дзяцей – гэта рашэнне бацькоў, а добра клапаціцца пра іх – абавязак. Ваша дзіця гэтак жа дасць жыццё сваім дзецям – гэта і з'яўляецца сусветным законам падзякі.

### "Адчапіся, не да цябе"

Фраза, якую дзеці памятаюць усё астатняе жыццё.

Калі нават дзіцячыя пытанні і справы вам здаюцца недастаткова значнымі – не ўхіляйцеся ад іх.

Вашым дзецям як паветра неабходныя ўвага і падтрымка.

### "З цябе ніколі нічога вартага не атрымаецца!"

Нават калі вы лічыце, што ваша дзіця недастаткова працавітае або здольнае, такія выказванні адаб'юць у яго жаданне працаваць над сабой.

Навошта, бо нават самы блізкі чалавек не верыць у тое, што ў яго нешта атрымаецца.

### "А вось Ваня, у адрозненне ад цябе ..."

Параўнанні з больш паспяховымі дзецьмі, нават калі гэта браты або сёстры, вельмі хваравіта ўспрымаюцца дзецьмі.

Такім параўнаннем, асабліва калі яно рэгулярнае і не на карысць дзіцяці, бацькі могуць вельмі моцна раніць яго самалюбства, што абавязкова адаб'ецца на яго дарослай самаацэнцы.

### "Здам у дзіцячы дом!"

Самае страшнае, што можа пачуць дзіця ад сваіх бацькоў. Яно можа здзейсніць непрывабны ўчынак, але не пазбаўляйце яго за гэта сваёй любові.

Можна лаяць і караць дзіця за нядобры ўчынак, але не за тое, што ён самы "дрэнны". Дзіця будзе думаць, што ваша любоў залежыць толькі ад яго паводзін.

### "Прыйдзе злы дзядзька і цябе забярэ ..."

Ёсць розныя варыяцыі гэтай фразы. Напрыклад: "Прыйдзе бабай, воўк..." Такія заявы вядуць да развіцця ў дзіцяці страхаў. Яно будзе баяцца незнаёмых людзей, новых месцаў, цемры.

Лепш проста сказаць: "Калі ты зараз хутка не збярэшся, у мяне потым не будзе часу з табой пагуляць і дачытаць кніжку".

### "Ты не ўмееш, дай я сама зраблю ..."

Такой фразай нельга кідацца, бо яна адбівае ў дзіцяці матывацыю да добрых спраў. Выпрацоўвае безадказнасць і гультайства.

Зразумела, што падлогу вы памыеце лепш і талерку памыеце чысцей. Але дазвольце дзіцяці вам дапамагчы – так вы не толькі прывучыце яго да акуратнасці, але і дасце адчуць, што без яго вам не справіцца.

Абавязкова падзякуйце яму за дапамогу, пастаўце вымыты посуд да астатніх талерак. А калі дзіцяці не будзе побач, калі трэба, вымыйце яго зноўку.

### "Мне б твае праблемы!"

Тое, што вам здаецца дробяззю, для дзіцяці можа стаць прычынай балючых клопатаў.

**Раман Сівіцкі кажа, што ўсе гэтыя фразы фарміруюць у дзяцей агрэсію, злосць, трывогу. Яны псуюць дзіцяці настрой. А ў выніку гэта ўсё прыводзіць да пагаршэння здароўя, з'яўляюцца хваробы і зніжаецца імунітэт.**

Выслухайце яго і прыкладзіце ўсе сілы і досвед, каб яму дапамагчы: "Разумею, табе зараз нялёгка, давай разам падумаем, як годна выйсці з гэтай сітуацыі".

### "Увесь у бацьку, такі ж ..."

Часта бацькі параўноўваюць дзяцей з мужам ці з жонкай, прыпісваючы сыну або дачцэ далёка не станоўчыя рысы характару мамы або таты.

Пераносячы такім чынам свой негатыў з мужа на дзіця, вы наносіце маленькаму чалавеку незаслужаную абразу.

Ніколі не параўноўвайце дзіця ні з братам ці сястрой, ні з сябрамі, ні з кім-небудзь яшчэ. Лепш канкрэтна пакажыце на тое, што ён зрабіў не так, і разбярыце сітуацыю без абвінавачванняў і параўнанняў.

### "Ва ўсіх дзеці як дзеці, а ты ..."

Такія фразы часта працягваюць словамі: "Ты, як заўсёды...", "Вечна ты..."

Не трэба падобныя словы казаць дзецям! Гэта зніжае самаацэнку, і дзіця сапраўды пачынае ім адпавядаць.

Кажучы такія фразы, вы вешаеце цэтлік на дзіця, што ён ні на што не годны.

### "Не хвалюйся з-за дробязі!"

Магчыма, для дзіцяці гэта не глупства! Успомніце сябе ў дзяцінстве!

Так, дзіця можа знервавацца, што яму машынку не далі або дом з кубікаў рассыпаўся. Бо ў яго маленькім свеце менавіта машынка і домік – самае важнае!

### "Ты яшчэ маленькі і не разумееш ..."

На жаль, такая фраза вядзе да непаразумення і нават канфліктаў паміж дарослымі і падлеткамі.

Пасля такіх слоў у дзіцяці яшчэ больш умацуецца пачуццё непадрыхтаванасці і, каб даказаць навакольным, што яно вырасла, можа пачаць паводзіць сябе "як дарослыя": курыць, здзяйсняць дзеянні з рызыкай для жыцця.

Гэтая фраза назаўсёды адаб'е жаданне штонебудзь пытаць у бацькоў. А потым бацькі самі скардзяцца: "Чаму ты мне ніколі нічога не расказваеш".

Якое б пытанне ні задало вам дзіця, паспрабуйце адказаць даходліва і падрабязна. Так вы сфарміруеце ў яго ўменне адэкватна ўспрымаць розныя сітуацыі.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ШТО РАБІЦЬ?

## Як атрымаць дапамогу па доглядзе за хворымі бацькамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Часам здараецца так, што ўзнікае неабходнасць даглядаць за кім-небудзь з блізкіх людзей.**

Прычым варта заўважыць: у выпадку догляду за інвалідам I групы або састарэлым, які дасягнуў 80-гадовага ўзросту і мае патрэбу ў пастаянным доглядзе, існуе магчымасць атрымліваць дапамогу.

Але такая дапамога прызначаецца і выплачваецца толькі пры пэўных умовах.

Чалавек, які мае патрэбу ў пастаянным доглядзе, павінен атрымаць адпаведную медыцынскую даведку.

### Як атрымаць дапамогу

Дапамога прызначаецца на перыяд догляду за непрацаздольным грамадзянінам.

Каб яе атрымаць, трэба звярнуцца ва ўпраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне з заявай і неабходнамі дакументамі.

### Неабходнасць вызначаюць медыкі

Трэба мець на ўвазе, што галоўная ўмова прызначэння дапамогі – медыцынскае пацвярджэнне таго, што інвалід I групы або пенсіянер ва ўзросце за 80 гадоў сапраўды не можа абысціся без пастаяннага догляду.

У прыватнасці, для інваліда I групы такім пацвярджэннем з'яўляецца выпіска з акта агляду медыка-рэабілітацыйнай камісіі, якая знаходзіцца ва органах сацыяльнай абароны.

Для асобы ва ўзросце 80 і больш гадоў – заключэнне ўрачэбна-кансультацыйнай камісіі, якое даецца бальніцай, медыка-санітарнай часткай, дыспансерам або паліклінікай.

Як паведаміла намеснік начальніка ўпраўлення па пенсійных і матэрыяльна-бытавых пытаннях Маладзечанскага ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне **Ларыса Бялько**, цяпер пражытачны мінімум па доглядзе за інвалідамі складае 924 тысячы 150 рублёў.

У выпадку ажыццяўлення догляду за двума непрацаздольнымі грамадзянамі вам будзе налічвацца 1 мільён 386 тысяч 250 рублёў.

### Парадак выплаты дапамог

Выплата дапамогі спыняецца, калі заканчваецца тэрмін, на які дадзеная I група інваліднасці. А яшчэ ў тым выпадку, калі чалавек, за якім вы даглядалі, памёр.

Таксама калі вы перасталі даглядаць асобу ці ўладкаваліся на працу, выплата дапамогі спыняецца.



Фота photo.rusnet.ru

Прыходзіць час, калі бацькі становяцца старымі, хворымі, нямоглымі.

### Калі вы працуеце – дапамогу не атрымаць

| Дапамогу па доглядзе за нямоглымі бацькамі **можаце** атрымаць, калі: | **Не можаце** атрымаць дапамогу, калі: |
|---|---|
| працаздольныя | |
| нідзе не працуеце | займаецеся прадпрымальніцкай дзейнасцю |
| | вучыцеся ў навучальных установах на дзённай форме навучання |
| | атрымліваеце пенсію або якую-небудзь дзяржаўную выплату. |



Вольга ЮРКЕВІЧ
olga920420@gmail.com

ФУТБОЛ

# Як прайшлі апошнія сезоны прафесійнага футбола


Фота з архіва "РГ".

Пачатак другога круга чэмпіянату 2003 года. Дамашні матч "Маладзечна" супраць барысаўскага БАТЭ. Склад нашай каманды абноўлены за кошт мясцовых футбалістаў. З таго часу ў ім не было моцных прыезджых гульцоў з высокімі заробкамі.

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі ў 1999 годзе клуб "Маладзечна" пакінуў вышэйшую лігу, думалася, што вяртанне туды будзе зусім не хуткім. Аднак ужо праз колькі месяцаў балельшчыкаў узрадавалі прыемныя навіны.**

Галоўным трэнерам каманды (і адначасова кіраўніком клуба) зноў стаў вядомы спецыяліст **Людас Румбуціс**, з якім былі звязаныя нашы поспехі ў 1995 годзе.

Адбылося гэта дзякуючы таму, што ён прывёў за сабой спонсараў, бізнесменаў з Мінска.

У чэмпіянаце першай лігі 2000 года маладзечанцы занялі першае месца. Па ўмовах правядзення розыгрышу ў тым сезоне толькі адна каманда магла разлічваць на выхад у вышэйшую лігу. Сур'ёзную канкурэнцыю нашаму "Маладзечну" склалі футбалісты з "Лунінца". Пасля паражэння ад іх на пачатку другога круга ўспамінаўся крылаты выраз, што прайграная бітва, але не вайна цалкам. Так і атрымалася: фінішным спуртам маладзечанцы адарваліся ад пераследнікаў на дванаццаць ачкоў. У выніку за 30 матчаў каманда мела 23 перамогі, 5 нічых, 2 паражэнні, розніцу мячоў 76-16.

Дарэчы, у тым сезоне поле гарадскога стадыёна рамантавалася.

**Дамашнія матчы маладзечанцы праводзілі на стадыёне ў Чысці.**

Як вядома, ён крыху вузейшы, чым патрабуецца па стандартах. Людас Румбуціс казаў, гэта няблага для нашай каманды. Каб перамагаць, даводзілася хутчэй бегаць і хутчэй думаць.

Наступныя тры сезоны мы зноў правялі ў вышэйшай лізе. Кожны з іх быў па-свойму запамінальны. Дарэчы, у тыя гады афіцыйная назва каманды была крыху іншая, а менавіта, "Маладзечна-2000".

У чэмпіянаце 2001 года паказаны добры вынік – дзясятае месца. Вясенні адрэзак каманда прайшла наогул выдатна, знаходзілася ў верхняй частцы турнірнай табліцы. Потым, у летнія месяцы, быў спад ажно да "наццатых" пазіцый. У восеньскіх жа турах узялі верх над аўтсайдэрамі ды яшчэ і над некалькімі больш моцнымі праціўнікамі. У выніку за 26 матчаў каманда мела 8 перамог, 5 нічых, 13 паражэнняў, розніцу мячоў 23-47.

Адна з тых восеньскіх перамог атрыманая дома над барысаўскім БАТЭ з лікам 2:1. У стартавым складзе маладзечанцаў выходзілі варатар **Андрэй Рубацкі**, абаронцы **Дзмітры Кабельскі** (забіў гол), **Віталь Бычкоўскі, Руслан Азаронак**, паўабаронцы **Ігар Сарасек, Дзяніс Смірноў, Дзмітры Мігас, Віталь Міхалёў** (капітан каманды), **Сяргей Тартоўскі**, нападаючыя **Сяргей Сідарэнка** (забіў гол), **Віталь Макрыцкі**. Прапускаў сустрэчу нападаючы **Андрэй Турчыновіч**, які стаў лепшым снайперам каманды ў чэмпіянаце, забіўшы восем мячоў.

У чэмпіянаце 2002 года занялі трынаццатае месца, перадапошняе. Па ўмовах правядзення розыгрышу ў тым сезоне вышэйшую лігу пакідала толькі адна каманда. Ранейшых грошай у нашага клуба ўжо не было.

З другога круга галоўным трэнерам стаў былы футбаліст мінскага "Дынама" саюзных часоў **Аляксандр Кісцень**, пры гэтым значную дапамогу яму аказваў мясцовы маладзечанскі спецыяліст **Аляксандр Гармаза**. На фінішы чэмпіянату ішла ўпартая барацьба "за выжыванне" супраць віцебскага "Лакаматыва". Шчасце ўсміхнулася нашай камандзе дзякуючы перамозе ў вочнай сустрэчы з лікам 3:1 ды яшчэ на выездзе. У выніку за 26 матчаў мелі 3 перамогі, 3 нічые, 20 паражэнняў, розніцу мячоў 23-59.

У чэмпіянаце 2003 года маладзечанцы сталі апошнімі, шаснаццатымі. Падчас перадсезоннай падрыхтоўкі настрой быў вельмі аптымістычны. На пасаду галоўнага трэнера запрасілі аўтарытэтнага спецыяліста **Вячаслава Акшаева**, які прывёў за сабою моцных гульцоў. З'явіўся ў клубе і новы дырэктар. На жаль, гэтага працоўнага запалу хапіла ненадоўга, нават першы круг прыйшлося заканчваць выключна на маральнавалявых якасцях.

Ужо з таго часу ў "Маладзечне" не было моцных прыезджых футбалістаў з высокімі заробкамі. На другі круг склад быў абноўлены выхаванцамі мясцовай спартыўнай школы. Галоўным трэнерам прызначылі былога нападаючага каманды **Руслана Лукіна**. Ён прыехаў у Беларусь з Азербайджана, доўгі час жыў у нашым горадзе.

Каманда спрабавала змагацца, але за некалькі тураў да фінішу стала ясна, што трэба зноў адпраўляцца ў першую лігу. У выніку за 30 матчаў мелі 3 перамогі, 7 нічых, 20 паражэнняў, розніцу мячоў 19-52.

У чэмпіянаце першай лігі 2004 года занялі трынаццатае месца. Яно давала магчымасць працягваць тут выступленні і надалей. Аднак у 2005 годзе ў райвыканкаме не знайшлося грошай на заявачны ўзнос, таму каманду перавялі ў другую лігу, дзе выдаткі меншыя. Там мы і выступалі на працягу наступных васьмі сезонаў.

У 2004 годзе галоўным трэнерам працаваў мясцовы спецыяліст, былы нападаючы каманды **Віталь Казяк**. Таксама мясцовым быў і ўвесь адміністрацыйна-трэнерскі штаб. Грошы, якія выдзяляліся на поўны сезон, былі выкарыстаныя на працягу першага круга. Часовы плён гэта дало. Пры дапамозе некалькіх дасведчаных прыезджых гульцоў трымаліся сярод лідараў, і першы круг скончылі ажно на трэцім месцы, атрымаўшы 8 перамог. У другім крузе проста дагульвалі сезон, пацярпелі 13 паражэнняў. У выніку за 30 матчаў мелі 9 перамог, 4 нічые, 17 паражэнняў, розніцу мячоў 27-54.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

НАВІНЫ

## Завяршыўся 12 тур чэмпіянату раёна па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ. У сераду, 6 сакавіка, прайшлі два матчы 12 тура чэмпіянату раёна па міні-футболе.**

Каманда аддзела па фізкультуры, спорце і турызме абыграла супрацоўнікаў ЖКГ з лікам 10:3, прадстаўнікі аддзела адукацыі выйгралі ў каманды райваенкамата (12:3), паведаміў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў**.

Матчы, згуляныя 9 сакавіка, прынеслі такія вынікі. Мядзел – райаддзел па надзвычайных сітуацыях – 14:3, Сваткаўскі сельсавет – індывідуальныя прадпрымальнікі – 5:4, НДЦ "Зубраня" – Будслаўскі сельсавет – 11:0, індывідуальныя прадпрымальнікі – Крывіцкі сельсавет – 5:0, Нарацкі – Сваткаўскі – 8:1.

Да заканчэння чэмпіянату застаўся адзін тур.

## Перамаглі літоўцаў і ўкраінцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Міжнародны турнір па грэка-рымскай барацьбе прайшоў 5-6 сакавіка ў спартыўнай школе ўжо ў чацверты раз.**

Ён быў прысвечаны 625-годдзю горада.

На турнір завіталі спартсмены з Літвы і Украіны. Хлопцы 1999-2000 гадоў нараджэння змагаліся за перамогу, усяго на мерапрыемства завіталі 292 спартсмены.

Першымі месцамі адзначыліся выхаванцы трэнераў **Антона** і **Дзяніса Найлаўцоў**. У сваіх вагавых катэгорыях пераможцамі сталі **Максім Савасцьянаў, Арцём Шульвінскі** і **Арцём Валасковіч.**

**Аддзел інфармацыі.**

ВАЛЕЙБОЛ

## Каманда "Першага Беларускага" заваявала Кубак

**ВІЛЕЙКА. Адзінаццаты штогадовы Кубак па валейболе сярод мужчынскіх камандаў на прызы дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра "Надзея-XXI стагоддзе" прайшоў на выхадных, 2-3 сакавіка.**

Спаборніцтвы праходзілі ў спартыўнай зале цэнтра. У турніры прыняло ўдзел дзевяць камандаў, якія былі разбітыя на тры падгрупы.

– Гульні ў падгрупах праходзілі па кругавой сістэме, лепшыя каманды выходзілі ў фінальную частку. У фінале каманды гулялі таксама па кругавой сістэме, – патлумачыў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**.

Першае месца заняла каманда РСУП "Першы Беларускі", на другім месцы каманда цэнтра "Надзея-XXI стагоддзе". Замкнулі тройку прызёраў прадстаўнікі Вілейскай ЖКГ. Каманды-прызёры ўзнагароджаныя дыпломамі і грашовымі прэміямі, а пераможца – пераходным кубкам.

Лепшымі нападаючымі сталі **Яўген Маліноўскі** ("Вілейская ЖКГ") і **Яўген Бабкевіч** ("Першы Беларускі"), лепшымі абаронцамі – **Сяргей Юрчык** ("Першы Беларускі") і **Яўген Валюжэнец** ("Надзея-XXI стагоддзе"). Найбольш карыснымі гульцамі назвалі **Аляксандра Гіля** ("Надзея") і **Аляксандра Пакусаева** ("Вілейская ЖКГ"), а заслужаным гульцом – **Уладзіміра Аляксеева** ("Надзея"). Вызначылі лепшых зазятараў – **Уладзіслава Петуха** і **Яна Барташэвіча**.

– Прадстаўнікі і гульцы ўдзячныя кіраўніцтву і супрацоўнікам цэнтра "Надзея-XXI стагоддзе" за правядзенне турніру і за садзейнічанне ў папулярызацыі і развіцці валейбола ў Вілейскім раёне, – адзначыў **Аляксандр Вайда**.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота Аляксандра ВАЙДЫ.

Каманда "Першага Беларускага" – пераможца турніру.

ГАСТРОНОМ УЛ. Ф. СКОРИНЫ, 28
УНИВЕРСАМ УЛ. ВЕЛИКИЙ ГОСТИНЕЦ, 136

АЛМИ
СЕТЬ МАГАЗИНОВ

# Все на масленицу в АЛМИ

**Блины сметанные:** мука, сметана, яйцо, кефир, сахар, соль, сода, масло растительное.

**С 11 по 17 марта**
**покупайте 1кг Сметанных блинов**
**всего за 25 000 рублей**
**и получайте Конфитюр Сладкая сказка**
**В ПОДАРОК!***

*Акция проходит только в универсаме АЛМИ (ул. В. Гостинец, 136)



Конфитюр Сладкая сказка 250г РФ В ассортименте

| Цена | Скидка | Товар |
|---|---|---|
| 4600 | 20% | Йогурт Монтик жир.2% 75г РБ Яблоко-банан/Клубника-ваниль |
| 2750 | 25% | Пудинг Нежный жир.2.4%-2.5% 115г РФ Ваниль/Карамель/Шоколад |
| 12900 | 25% | Сыр плавленный ломтевой Хохланд жир.45% 150г РФ В ассортименте |
| 89900 | 20% | Колбаса Медовая с/в в/с 1кг РБ |
| 39900 | 15% | Колбаса вареная мясная Останкинская Элит в/с 1кг РБ |
| 18900 | 20% | Пельмени Новогрудские Нежные 1кг РБ |
| 10900 | 20% | Путассу с/м 1кг Шотландия |
| 37900 | 30% | Смесь оливковых масел Олио ди Санса ди Оливо Амбра 1л Италия |
| 46900 | 15% | Каша сухая молочная Нестле 500г РФ 5 злаков с яблокоми бананом/Овсяная с грушей и бананом |
| 12500 | 35% | Млеколадки Лубелла 250г Польша Корица/Мед |
| 5950 | 20% | Макаронные изделия Нудел продукт 900г РФ Спиральки/ Перья рифленые/ Рожок Доллар/Рожок рифленый |
| 6900 | 30% | Нектар На100ящий 1л РБ Персик-манго/Яблоко |
| 15900 | 20% | Кофе растворимый Нескафе Классик 75г РФ |
| 16500 | 20% | Чай Чайная коллекция 100г РБ В ассортименте |
| 1750 | 30% | Печенье Танго 75г Украина Ваниль/Какао/Сгущенное молоко |
| 4750 | 25% | Зефир ванильный в шоколаде Чаровей 95г РБ ОАО «Красный пищевик» |
| 10700 | 20% | Конфеты Цитрус Бум Рошен 300г Украина |
| 9900 | | Торт вафельный глазированный Старый замок 250г РФ Ореховый/Черничный |
| 4950 | 25% | Чипсы Лейз Стронг 58г РФ Холодец-хрен/Охотничьи колбаски |
| 7500 | 25% | Туалетная бумага Сипто Колор 4шт Украина Яблоко/Лимон |
| 8500 | 25% | Порошок чистящий и моющий Титан 500г Польша В ассортименте |
| 34900 | 30% | Стиральный порошок Сорти Автомат 3кг РФ Колор/Голубой поток |
| 15900 | 25% | Концентрат-ополаскиватель для белья Дося 1л РФ Альпийская свежесть/Нежная свежесть/Пробуждение весны |
| 6500 | 25% | Средство для мытья посуды Био 500мл Украина В ассортименте |


товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136


товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

ООО «Торгпин», Лиц.50000/26251 выд. Мингорисполкомом от 23.05.2012 по 20.06.2022, УНП 190679197.

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 13 ПО 26 МАРТА 2013 ГОДА**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 7 | | | 9 | |
| | 9 | | 6 | | | | | |
| | | 5 | 2 | | | 6 | 8 | |
| | 3 | 4 | | | 8 | | | |
| 8 | | | 5 | | 3 | | | 7 |
| | | | 4 | | | 3 | 5 | |
| | 6 | 3 | | | 7 | 4 | | |
| | | | | | 2 | | 7 | |
| | 2 | | | 6 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.

## МАСЛЕНІЦА

* Дзе бліны, там і мы; дзе з маслам каша – тут і месца наша.

## РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Фэнтэзі **"Оз: Вялікі і магутны"** (у фармаце 3D, ЗША, 2013)

15, 21 сакавіка – у 15.30, 18.30
16, 17 сакавіка – у 13.00, 16.00
18, 19 сакавіка – у 18.00
20 сакавіка – у 16.00

Кошт білетаў – 35 000 рублёў (дзённы), 40 000 рублёў (вячэрні сеанс)

Трылер **"Аперацыя "Арго"** (сёлетні уладальнік прэміі "Оскар" у намінацыі "Лепшы фільм года")

16, 17, 20 сакавіка – у 19.00

Кошт білетаў – 30 000 рублёў

Камедыя **"Што вытвараюць мужчыны"**

15, 17, 20, 21 сакавіка – у 21.30
18, 19 сакавіка – у 21.00

Кошт білетаў – 22 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма **"Кококо"**

15, 21 сакавіка – у 17.00, 19.00, 21.00
16, 17 сакавіка – у 18.30, 20.30
18, 19 сакавіка – у 18.30, 20.30
20 сакавіка – у 17.30, 19.20, 21.10

Анімацыйныя прыгоды **"Адважная Ліфі"**

16, 17 сакавіка – у 14.30, 16.30

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча) *Уладзімір Рудаў*

15 пятніца 19.00

**"Маленькі свет..."** (жорсткая меладрама ў 2-х дзеях) *Алена Папова*

16 субота 17.00

**"Чатыры навелы пра каханне"** *Сямён Злотнікаў, Валянцін Распуцін, Людміла Пятрушэўская, Аляксей Слапоўскі*

19 аўторак 19.00

Тэатра мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: **modt@tyt.by.**

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Прывітанне для малпачкі"** (камедыя) *Р.Осцер.*

17 нядзеля 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.* Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**



## ГАРАСКОП (15-21 САКАВІКА)

**Авен.** Галоўнае для вас – ні на хвіліну не страчваць упэўненасці ў сабе, не расслабляцца. Як толькі вы пачынаеце сумнявацца, удача паварочваецца ў іншы бок.

**Цялец.** Вам трэба пачаць ужо душыць у сабе жаданне пачаць чарговую спрэчку. Праявіце цярпенне: толькі яно дапаможа вам адчуць душэўную гармонію.

**Блізняты.** Вас чакае паляпшэнне матэрыяльнага становішча. А яшчэ гэты перыяд добры для інтэлектуальнага развіцця, дапытлівасці, зносін і падарожжаў.

**Рак.** Перыяд хоць і цяжкі, але цікавы і нават прыемны. Нехта зайздросціць вашай папулярнасці і строіць падкопы. Будзьце асцярожныя і разборлівыя ў сувязях.

**Леў.** Каб пазбегнуць сварак, не прад'яўляйце сваім палавінкам зусім невыканальныя патрабаванні. Вы ж будзеце расстройвацца, калі хтосьці ім не будзе адпавядаць.

**Дзева.** Прыйшоў час заняцца кар'ерай. Вы надзеленыя прагматычнасцю ў спалучэнні з інтуіцыяй, здольныя выявіць перспектывы для паступовага ўвасаблення іх у жыцці. Толькі навучыцеся жыць сваім жыццём і мець свабоду выбару.

**Шалі.** Вы можаце з поспехам даследаваць і развіваць свой духоўны свет, лепш зразумець падзеі свайго мінулага, разабрацца ў тайных страхах і знаках, убачаных у снах.

**Скарпіён.** Сачыце за сваім настроем, каб не крыўдзіць ні ў чым не вінаватых і самых дарагіх і блізкіх вам людзей. Цана памылак – вялікая.

**Стралец.** Вы ў чаканні перамен, новых знаёмых, цікавых сустрэч. І не варта турбавацца: усё гэта вельмі хутка ажыццявіцца!

**Казярог.** Рамантычныя намеры будуць увасобленыя ў рэальнасць, а ваш творчы патэнцыял будзе на пад'ёме, але куды вы яго накіруеце, вырашаць вам.

**Вадалей.** Сканцэнтруйцеся на ўласных справах, якія будуць складвацца найлепшым чынам. Паспрабуйце штосьці новае – у вас атрымаецца.

**Рыбы.** Складайце планы, дзейнічайце спакойна, і вы ўбачыце ў жыцці самыя смелыя задумы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета

**Камент-эксперт** erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

**16 сакавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -9 / -7 | | -9 / -9 | | -11 / -9 | | -13 / -8 | |
| | 723 | ↙ 11 | 735 | ↓ 9 | 744 | ↓ 6 | 745 | ↓ 2 |
| Вільня | -10 / -4 | | -11 / -4 | | -11 / -3 | | -10 / -5 | |
| | 738 | ↙ 13 | 747 | ↓ 8 | 754 | ↓ 7 | 753 | ↙ 5 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.23
Захад 19.19
Даўжыня дня 11.56

Усход 8.56
Захад 0.02
Квадра 1



## ПРЫКМЕТЫ

- Як на Фядота (15 сакавіка) мяце і ўтвараюцца снежныя заносы – доўга травы не будзе.
- На Герасіма-грачэўніка (17 сакавіка) прылятаюць гракі. Калі яны адразу садзяцца на гнёзды, то вясна чакаецца дружнай.
- Зіма вясну пужае, ды сама растае.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Як засцерагчы сябе ад туберкулёзу? Наколькі гэтая хвароба распаўсюджаная ў нашым рэгіёне?**

## РЫБАЛКА

# Спаборнічалі рыбакі

**МЯДЗЕЛ. На возеры Мястра 9 сакавіка адбыўся асабова-камандны чэмпіянат раёна па падлёдрай лоўлі рыбы на мармышку і блешню.**

Удзел прынялі 35 чалавек. У камандным заліку перамаглі прадстаўнікі Будслаўскага сельсавета: у складзе каманды былі **Ігар Балаш** і **Мікалай Апанасевіч**.

Ігар Балаш перамог у дзвюх з трох асабовых намінацый. Ён адзначаны за самы вялікі ўлоў (2 кілаграмы 250 грамаў). Таксама стаў першым у намінацыі "Самы вялікі экзэмпляр". А ў намінацыі "Найбольшая колькасць злоўленай рыбы" перамог **Віталь Ермаковіч** з ветстанцыі. Ён злавіў 109 рыбін.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Абразаюць дрэва па вуліцы Савецкай.



Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6700 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 11 (933) 15.03.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 197. Падпісана ў друк у 17.00 14.03.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Права на што самае важнае для вас?

**15 сакавіка 1994 года была прынятая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Да гэтай даты прымеркаванае апытанне.**

**Аляксандр Зубрыцкі, слесар:**

– Права на жыццё, на бясплатныя лекі. Нават права на свабоду часам не хапае, хоць і жывём у свабоднай краіне.

**Таццяна Котава, пенсіянерка:**

– На першым месцы, канешне, права на бясплатнае лячэнне і абслугоўванне ў бальніцы. Не ўсе могуць сабе дазволіць платную адукацыю, таму важна мець такое права.

**Арцём Алянцей, студэнт:**

– Я мяркую, што галоўнае – гэта права на жыццё, на адукацыю. А мне, як студэнту, важна права на льготны праезд у аўтобусе.

**Таіса Курсава, пенсіянерка:**

– Ёсць розныя правы, але я лічу, что галоўнае, каб была справядлівасць. Будзе справядлівасць – і правы будуць ажыццяўляцца.

**Алена Карквеліс, студэнтка:**

– Самае галоўнае для мяне – гэта права на жыццё, на свабоду і на адпачынак, вядома.

**Ксенія Харашайла, навучэнка:**

– Я думаю, што галоўнае для студэнтаў і навучэнцаў – права на сон, а таксама на адукацыю і адпачынак.

**Іван Бубен, ахоўнік:**

– На мой погляд, чалавек павінен мець права на годную працу і добры заробак.

**Падрыхтавалі Вольга ЮРКЕВІЧ, Ілля САНЬКО.**